У НУМАРЫ



# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (846) ГОД XVII БЕЛАСТОК 14 МАЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.





«БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 72»

У мінулым нумары са справаздачай з фінальнага агляду «Беларуская песня — 72», які адбыўся 16 красавіка ў Беластоку змясцілі мы фота пераможцы ў катэгорыі салістаў. Сёння прадстаўляем першага прызёра сярод калектываў. З'яўляецца імі актэт з Бельска: Валянціна Талочка, Валянціна Паўлючук, Мар'я Цар, Вера Раеўская, Еўдакія Наваковская, Анна Парфенюк, Антаніна Якімюк, Станіслава Валкавыцкая. Мастацкі кіраўнік і акампаніятар: Сяргей Лукашук.

*Фота Цаф — П. Савіцкі*

## ІЗБА НАРОДНАЙ ПАМЯЦІ ІМЯ С. ПРЫТЫЦКАГА Ў ГАРКАВІЧАХ

У чэрвені, у першую гадавіну смерці вядомага рэвалюцыянера і дзяржаўнага дзеяча Сяргея Прытыцкага ў яго роднай вёсцы Гаркавічах, Сакольскага павету, будзе адкрыта ізба народнай памяці. Сталая экспазіцыя гэтай ізбы будзе адлюстроўваць галоўныя этапы рэвалюцыйнай дзейнасці С. Прытыцкага, ролю камуніста, пасла Сейма Паўла Валошына, таксама ўраджэнца Гаркавіч і пакуты жыхароў гэтай вёскі ў перыядзе гітлераўскай акупацыі.

Ініцыятары і арганізатары Ізбы звяртаюцца з гарачым заклікам да ўсіх грамадзян, якія маюць здымкі Прытыцкага, каб як найхутчэй звязаліся з Музеем рэвалюцыйнага руху ў Беластоку, вул. Кілінскага 6, тэл. 34—81.



*Як мы ўжо звярталі ўвагу, выстаўка беларускай кнігі, арганізаваная ў красавіку г.г. у Беластоку, была густоўна афармлена. У мастацкім афармленні выстаўкі адлюстроўвалася культурнае жыццё Беларусі. На здымку фрагмент мастацкага афармлення выстаўкі беларускай кнігі.*

*Фота Цаф — Р. Сянько*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З ГРОДНА

## Крокі сельскай эканомікі

Нівы Гродзеншчыны... Невычэрпныя іх багацці, непамерная пладародная сіла, невылічальныя рэзервы росту прадукцыйнасці, калі па-гаспадарску аб іх клапаціцца, гаспадарыць на ўзроўні патрэб сучаснасці. Доказ гэтага — сістэматычны рост ураджаяў, павелічэнне прадукцыі фермаў.

Кожны пражыты год для працаўнікоў сяла прынёманскага краю — гэта новая ступенька, новы ўзлёт эканомікі, матэрыяльна-культурнага ўзроўню жыцця. Нямала зроблена сялянствам Гродзеншчыны ў першым годзе дзевятай пяцігодкі на шляху да выканання ўказанняў партыі. Але яшчэ больш трэба зрабіць у другім і наступных гадах новай пяцігодкі.

Як будзе выглядаць сельская гаспадарка вобласці ў 1975 годзе?

Ужо цяпер гэтая важная галіна народнай гаспадаркі з'яўляецца высокамеханізаваным, створаным на навуковых падставах цэхам, які дае краіне нямала прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі. У час выконвання пяцігадовага плана значна ўзрасце яго матэрыяльна-тэхнічная база, на новую ступень канцэнтрацыі, каардынацыі, спецыялізацыі і інтэнсіфікацыі ўзнімецца яго эканоміка. Навуковыя асновы гаспадарання глыбей увойдуць ва ўсе галіны. Узрасце жыццёвы ўзровень вясковага насельніцтва.

Пяройдзем да лікаў. Яны — бясспрэч-

Працяг на стар. 4

## БГКТ хроніка

■ 23 красавіка сямяціцкі аддзел БГКТ арганізаваў у Мілейчыцах агляд тэатральных калектываў. Прынялі ў ім удзел самадзейнікі з Вілінава, Літвінавіч і Тымянкі. Вілінаўцы падрыхтавалі драму Янкі Купалы «Раскіданае гняздо», Літвінавічы — п'есу Валянціна Зуба «Злавацца не трэба», а Тымянка — п'есу Янкі Купалы «Паўлінка». Журы прызнала першае месца вілінаўскаму тэатральнаму калектыву, мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Анатоль Мартыновіч. Гэты калектыў паедзе ў Беласток на фінальны агляд тэатральных калектываў з беларускім рэпертуарам, які адбудзецца ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ 14 мая.

■ 28 красавіка гурток БГКТ у Вілінаве супольна з мясцовымі арганізацыямі арганізаваў акадэмію, прысвечаную міжнароднаму святу працоўных — Першаму маю. У мастацкай частцы выступіла харавая група мясцовага мастацкага калектыву.

■ 29 красавіка харавы калектыў БГКТ з Бельска Падляшскага пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука выступаў у сваім горадзе ў зале прэзідыума ПРН на першамайскай акадэміі.

■ Сямяціцкі аддзел БГКТ прыняў актыўны ўдзел у арганізаванні першамайскай акадэміі ў Мілейчыцах, якая адбылася 29 красавіка.

■ 30 красавіка беластоцкі павятовы аддзел БГКТ арганізаваў агляд тэатральных калектываў. Самадзейнікі з Міхалова падрыхтавалі пад мастацкім кіраўніцтвам Рышарда Вераб'я п'есу Янкі Купалы «Прымакі», а самадзейнікі з Гарадка пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай — пастаноўку Валянціна Зуба «Злавацца не трэба». Яны прымуць удзел у фінальным аглядзе тэатральных калектываў у Галоўным праўленні БГКТ.

■ 30 красавіка адбыўся таксама агляд тэатральных калектываў у Бельску Падляшскім. Асабліва цікава выступілі самадзейнікі з Паўлаў. Пад кіраўніцтвам Валі Мароз (Амельянюк) і ў яе перакладзе з польскай мовы на беларускую яны падрыхтавалі на сцэну аповесць Марыі Шулецкай аб трагедыі Райска пад загалоўкам «Топтаная зямля». Большасць прысутных на аглядзе, у тым ліку і журы выцірала слёзы. Паўлам было прызнана першае месца. На высокім мастацкім узроўні выступілі таксама самадзейнікі з Рыбалаў, якія пад кіраўніцтвам Сяргея Філіпюка добра падрыхтавалі п'есу Кандрата Крапівы «Валодзін гальштук». Гэтыя два тэатральныя калектывы будуць прадстаўляць Бельскі павет на фінальным аглядзе тэатральных калектываў у Беластоку.

■ 1 мая харавы калектыў з Бельска Падляшскага выступаў супольна з іншымі калектывамі з Бельшчыны на плянтах у так званай мушлі.

■ 2 мая сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк і член прэзідыума ГП Мікалай Гайдук, а таксама дырэктар беларускага ліцэя ў Гайнаўцы Васіль Базылюк у Дубічах Царкоўных, Чэхах Арлянскіх і Палічнай правялі сустрэчу са школьнай моладдзю, а ў вёсцы Чарэмха — з насельніцтвам. Інфармавалі яны аб дзейнасці БГКТ і аб тым, што Беларуская таварыства многа ўвагі прысвячае навучанню беларускай мовы і падрыхтоўцы настаўніцкіх кадраў да гэтага прадмета. (мх)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі




## СВЕТ

### У ПАЎДНЁВЫМ В'ЕТНАМЕ

Народныя ўзброеныя сілы вызвалення Паўднёвага В'етнама вядуць актыўныя баявыя аперацыі супраць часцей сайгонскай арміі, разгромленых у правінцыі Куанчы. У правінцыі Тайнінь, з 26 па 30 красавіка сілы вызвалення авалодалі некалькімі ўмацаванымі пунктамі марыянетак, вывеўшы са строю больш за 400 салдат, захапіўшы шмат ваеннага рыштунку. Горад Хюэ знаходзіцца пад непасрэднай пагрозай з боку сіл вызвалення.

Аглядальнікі ў шматлікіх карэспандэнцыях, артыкулах і каментарыях наконт становішча ў Індакітаі падкрэсліваюць, што паспяховае наступленне Народных узброеных сіл вызвалення Паўднёвага В'етнама абвяргае ўсе разлікі ЗША на ваенную перамогу з дапамогай марыянетачнай сайгонскай арміі. «В'етнамізацыя», на якую разлічвалі амерыканцы, — піша французская «Фігаро», — мякка кажучы, аказваецца моцна скампраметаванай».

У свеце моцна асуджаецца рашэнне амерыканскай і сайгонскай дэлегацый на парыжскай нарадзе па В'етнаму аб адмове ўдзельнічаць у чарговым пасяджэнні гэтай нарады. Байкот парыжскай нарады газеты звязваюць з новымі перакідамі дадатковых кантынгентаў ваенна-паветраных і ваенна-марскіх сіл ЗША ў раён В'етнама.

Калі аддаем гэты матэрыял да друку, прэзідэнт Ніксан склікаў нараду ў Белым доме. Прадбачваецца, што Ніксан можа загадаць блакаду порта Хайфонг і бамбардзіроўку сталіцы ДРВ Ханой.

### НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ Ў БАНГЛАДЭШ

Праграма нацыяналізацыі прамысловых прадпрыемстваў, аб'яўленая ўрадам Бангладэш, паспяхова ажыццяўляецца. Нядаўна пушчана тут у ход 67 джутавых фабрык, якія былі нацыяналізаваны ўрадам у сакавіку гэтага года. Агульны выпуск прадукцыі тых фабрык складае 67,7 працэнтаў іх праектнай магутнасці.

### ВАДА — НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРАБЛЕМА

Шклянка чыстай пітной вады стала ў Злучаных Штатах важнай нацыянальнай праблемай. Якасць пітной вады ў краіне няспынна пагаршаецца ў выніку забруджання вадаёмаў і рэк адыходамі прамысловай вытворчасці.

### ПРАТЭСТ

У сувязі з чарговай сіяніцкай правакацыяй — выбухам запальнай бомбы ў аддзяленні ТАСС у Вашынгтоне пасольства Савецкага Саюза ў Злучаных Штатах заявіла рашучы пратэст дзяржаўнаму дэпартаменту ў ЗША.

### ВЫСТУПЛЕННЕ ШТРАУСА

Старшыня баварскіх хрысціянскіх дэмакратаў (ЦСУ) Ф. І. Штраус нядаўна заявіў, што хрысціянска-дэмакратычная апазіцыя зноў спрабуе звергнуць урад Бранта, калі толькі будзе на гэта аказія.

### АБ ПРАДУХІЛЕННІ ІНЦЫДЭНТАЎ

У адпаведнасці з дасягнутай дагаворанасцю ў Вашынгтоне прадоўжаны перагаворы прадстаўнікоў СССР і ЗША па пытаннях прадухілення магчымых інцыдэнтаў на моры і паветранай прасторы. (АК)

## БССР

### СЛАЎНЫЯ ДАТЫ

Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі прыняў рэзалюцыю «Аб падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў, прысвечаных знамянальным датам Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гг.»

Найважнейшая тут дата — 9 мая: Дзень Перамогі. У свядомасці прагрэсіўнага чалавецтва гэта дата непарыўна звязана з неўміручым подзвігам савецкага народа, які разграміў германскі фашызм. Барацьба з ім вялася не толькі на франтах. На часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі разгарнулася ўсенародная партызанская вайна. Звыш 440 тысяч партызан і падпольшчыкаў мужна змагаліся ў тыле ворага.

Бюро ЦК КП Беларусі вырашыла адзначыць 27 гадавіну Перамогі і дзень вызвалення рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў як вялікае, усенароднае свята.

### ПАРОДНЕНЫЯ ГАРАДЫ

Па ініцыятыве Сусветнай федэрацыі пародненых гарадоў у 1963 годзе быў устаноўлены Сусветны дзень пародненых гарадоў. З гэтай нагоды Мінск шле прывітанні і свае добрыя пажаданні англійскаму гораду Нотынгему, а Жодзіна вітае французскі горад Венісье.

### ФІЛЬМ ПРА ПАЭТА

Па сцэнарыю Алеся Бачылы рэжысёр-пастаноўшчык П. Аліфярэнка зрабіў у кінастудыі «Беларусьфільм» дакументальны фільм-апавяданне пра выдатнага беларускага паэта Максіма Багдановіча. Фільм ужо дэманструецца ў кіно Беларусі. Добра было б, каб трапіў ён і да нас. Быў бы дасканалым дапаможнікам у сярэдніх школах з беларускай мовай, ды і звычайныя гледачы змаглі б пазнаёміцца з жыццёвым шляхам і творчымі манерамі молада памершага паэта.

### ДАТЭРМІНОВА

Цэнтральнае статыстычнае ўпраўленне БССР паведамляе, што работнікі прамысловасці Беларускай ССР, разгарнуўшы сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу свята працоўных 1 мая і 50-годдзя ўтварэння СССР, датэрмінова, 28 красавіка, выканалі план чатырох месяцаў па рэалізацыі прадукцыі і вытворчасці большасці важнейшых відаў вырабаў.

### ПЕРШАМАЙСКІ РАПАРТ

У першамайскім рапарце працоўныя Мінскай вобласці заявілі сваёй радзіме, што прадукцыйнасць іх працы ў параўнанні з узроўнем адпаведнага перыяду мінулага года ўзрасла ў першым квартале гг. на звыш 8 працэнтаў. Толькі адных тавараў народнага спажывання за гэты час яны далі звыш плана на 11 мільёнаў рублёў.

### НА ПАЛЯХ

Калгас імя Кірава адным з першых у Камянецкім раёне закончыў сяўбу ранніх збожжавых, цукровых буракоў, карэнеплодаў і пасадку бульбы.

Калгаснікі калгаса «Перамога» Светлагорскага раёна абавязаліся сёлета сабраць з кожнага гектара па 23 цэнтнеры збожжа і 190 ц. бульбы. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### ВІЗІТ Э. ГЕРКА

5 і 6 мая г.г. І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк правёў сустрэчу з сялянамі Велькапольскі. Зараз у Познанскім ваяводстве адбываецца «Зялёнае жніва» — уборка азімага жыта, пасеянага на пашу. На сустрэчы з членамі сакратарыята ВК ПАРП у Познані Э. Герэк знаёміў з актуальнымі праблемамі, якія вырашае зараз Цэнтральны Камітэт ПАРП.

### ДЭЛЕГАЦЫІ Ў Э. ГЕРКА

З нагоды «Дня гутніка» І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў у сябе дэлегацыю сталявараў, якая паведаміла кіраўніцтву партыі і ўрада аб паспяховым выкананні сёлетніх прадукцыйных задач і аб рэалізацыі абавязацельстваў, прынятых у рамках акцыі «20 мільярдаў».

Э. Герэк у сваім выступленні адзначыў самаахвярную працу сталявараў і перадаў усім ім свае найлепшыя пажаданні.

З нагоды «Дзён асветы, кнігі і друку» І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк прыняў дэлегацыю творчых асяроддзяў у цэлай краіне. Тэмай сустрэчы былі справы звязаныя з далейшым усебаковым развіццём культуры.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО

3 мая г.г. адбылося пасяджэнне Палітбюро ЦК ПАРП, на якім былі абмеркаваны задачы ў галіне паляпшэння працы ўстановы патэнтаў ПНР і лепшага выкарыстання вынаходніцтваў. У другім пункце пасяджэння Палітбюро знаёмілася з актуальным становішчам прадукцыі і забеспячэння рынка прамысловымі прадуктамі.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ЎРАДА

5 мая г.г. адбылося пасяджэнне Прэзідыума ўрада, на якім былі абмеркаваны прапановы змен у сёлетнім плане ў галіне замежнага гандлю. Прапановы змен датычыліся павелічэння тавараабаротаў у замежным гандлі. Прэзідыум урада абмеркаваў таксама праграмы працы Міністэрства асветы і выхавання і Міністэрства заработкаў і сацыяльных сродкаў. Апрача таго, было абмеркавана шэраг істотных спраў унутранай гаспадаркі, справа змагання з алкагалізмам і справа прысляшэння развіцця каляровага тэлебачання.

### НАРАДА АКТЫВУ

4 мая г.г. адбылася нарада грамадска-гаспадарчага актыву з удзелам тав. тав. Э. Герка і П. Ярашэвіча, якая прысвячалася далейшаму паляпшэнню інвестыцыйнага працэсу.

### ПЛЕНУМ ГАЛОЎНАЙ РАДЫ І ГП ЗБоВіД

6 мая г.г. адбылося пленарнае пасяджэнне Галоўнай рады ЗБоВіД, якое прысвячалася выбарам новых улад і абмяркоўцы даклада аб удзеле саюза ў святкаванні 30 гадавіны ПНР. Старшынёй Галоўнай рады ЗБоВіД выбралі члена Палітбюро ЦК ПАРП і старшыню Рады Міністраў П. Ярашэвіча, а старшынёй Галоўнага праўлення ЗБоВіД Ст. Вронскага.

### НОВЫЯ ВІЦЭ-МІНІСТРЫ

Старшыня Рады Міністраў назначыў інж. М. Зубялевіча і мгр Ю. Кулешу намеснікамі міністра мясцовай гаспадаркі і аховы асяроддзя. (ця)

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Грамадскасць Беласточчыны ўрачыста адзначыла 27-ую гадавіну перамогі над фашызмам. 8—9 мая ў Беластоку і іншых мясцовасцях адбылося шэраг мерапрыемстваў. У Беластоку ў дзень Перамогі на плянтах ля помніка Удзячнасці адбылася ўрачыстая змена варты, прадстаўнікі розных устаноў і прадпрыемстваў паклалі ля помніка вянкі і букеты кветак. У гарадскім парку адбыліся выступленні маладзёжных калектываў.

У іншых мясцовасцях адбыліся ўрачыстыя мітынгі і стаялі ганаровыя гарцэрскія варты ля месц-помнікаў народнай памяці і на магілах загінуўшых у час II сусветнай вайны.

### СУСТРЭЧА СА СТУДЭНТАМІ

І сакратар ВК партыі З. Куроўскі сустрэўся са студэнтамі ў клубе «Геркулесы». Гаспадаром на сустрэчы быў старшыня акруговай рады ЗСП Е. Голіс. На сустрэчы шмат увагі было прысвечана грамадскай і маральнай паставе студэнта. Тав. З. Куроўскі цікавіўся бытавымі справамі студэнтаў, месцамі працы для выпускнікоў беластоцкіх вузаў і інш. Студэнты запрапанавалі сваю дапамогу ў вырашэнні розных спраў нашага ваяводства.

### З. СПРЫХА СЯРОД АРХІТЭКТАРАЎ

Старшыня прэзідыума ВРН З. Спрыха сустрэўся з актывам беластоцкіх архітэктараў. Абмяркоўваліся найважнейшыя пытанні грамадскага і гаспадарчага развіцця ваяводства, яго будаўніцтва. Падкрэслівалася, што ў нашым ваяводстве не хапае спецыялістаў гэтай прафесіі ў радах нарадовых, таму больш сродкаў добра было б прызначыць на стыпендыі і стварыць лепшыя ўмовы для маладых кадраў. Шмат увагі прысвечана было стварэнню комплексных планаў загаспадарвання, новым сістэмам у будаўніцтве і іншым.

### ПІЛЬНЫЯ СПРАВЫ СЯЛА

Нядаўна сельскагаспадарчая камісія пры Ваяводскім камітэце партыі абмяркоўвала самыя надзённыя задачы сяла. Вёў пасяджэнне сакратар ВК партыі Я. Стомпар. Адзначалася на пасяджэнні, што наогул планы ў сельскай гаспадарцы нашага ваяводства выконваюцца паспяхова. 6 паветаў ужо поўнасцю выкупіла мінеральныя ўгнаенні. У іншых справа набліжаецца к канцу. У гэтай галіне мы ўжо займаем 2—3 месца ў краіне. У справе жывёлагадоўлі гаварылася аб хутчэйшым абмене чырвонай польскай пароды кароў на нізінную чорна-белую.

### КІРМАШЫ КНІЖАК

Ужо традыцыйна кожная першая нядзеля мая — гэта дзень, калі «Дом кніжкі» выходзіць з кніжкай на вуліцу, бліжэй да чытача. У Беластоку вялікі кірмаш кніжак адбыўся 7 мая на вуліцы Акадэміцкай. Кірмаш арганізуецца штогод у сувязі з Днямі асветы, кніжкі і прэсы. Сёлета гэтыя дні праходзяць пад лозунгам «Кніжка для ўсіх». Лозунг гэты аб'яўлены міжнароднай арганізацыяй ЮНЕСКО. Наступны кірмаш кніжкі адбудзецца 21 мая ва ўсіх мясцовасцях, дзе ёсць гандлёвыя пункты «Дома кніжкі». (яч)




**Niedziela 14.V.**

7.50 Program dnia. 7.55 TV Kurs Rolniczy:,, Kanalizacja w zagłębionych budynkach inwentarskich". 8.30 ,,Przypominamy, radzimy...". 8.40 ,,Alarm przeciwpożarowy trwa". 9.00 Klub Śmiałych. 10.15 PKF. 10.25 Film dokument. radz. ,,Czas i ludzie". 11.00 Gra orkiestra TV Katowice pod dyr. J. Wikarka. 11.25 ,,Rodzice chrzestni w całym kraju" — rep. 12.10 Dziennik. 12.30 ,,Od Tatr do Bałtyku" — Zespół Pieśni i Tańca CRZZ. 13.30 ,,Przemiany". 14.00 Dla dzieci: ,,Dzieci — hutnikom". 15.00 ,,Warszawskie spotkania". 15.50 Sprawozdawczy magazyn sportowy. W tym ok. 17.05 XXV Wyścig Pokoju — sprawozdanie z zakończenia IX etapu (Gottwaldovo). 17.40 ,,Wielka gra". 18.35 ,,Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Arsen Lupin" — seryjny film franc. 21.00 ,,Ballady żołnierskie" (,,Melodie Wielkiego Ekranu"). 22.00 Kronika Wyścigu Pokoju i Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 15.V.**

15.20 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.50 XXV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia X etapu na trasie Gottwaldovo-Trzyniec. 17.35 ,,Zwierzyniec". 18.20 ,,Próba" — film TVP. 18.45 ,,Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Szaniawski — ,,Żeglarz". 21.35 ,,Ex libris" — magazyn książki. 21.55 Recital lutniowy Grzegorza Banasia. 22.15 Dziennik. 22.30 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Wtorek 16.V.**

8.25 ,,U progu dojrzałości" — film fab. radz. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) ,,Na ziemi opolskiej". 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Język polski — J. Szaniawski ,,Żeglarz". 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Wiosenne prace na łąkach". 15.20 i 23.00 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 ,,Gdzieś w Polsce Powiatowej". 17.10 ,,Oferty". 17.30 Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,U progu dojrzałości" — film fab. radz. 21.35 ,,Dialogi historyczne" (fragmenty biografii Alfreda Fiderkiewicza). 22.20 Dziennik. 22.35 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Środa 17.V.**

9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — ,,Ważny kwas". 9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — ,,Wędrówki ciepła". 10.30 ,,Zmyślone" — film TVP. 13.40 ,,Wybieramy zawód". 14.50 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.55 Program dnia. 16.00 XXV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XI etapu na trasie Trzyniec — Kraków. 17.20 Dziennik. 17.30 Dla młodych widzów: ,,Galeria na medal". 18.00 PKF. 18.10 ,,Rozmowy o książkach". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 ,,Gdzieś w Grójeckim powiecie" (,,Na rynku pracy"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Zmyślone" — film TVP. 20.55 ,,Światowid" — ,,Świat i Polska". 21.30 Impresje baletowe studia tańca nowoczesnego. 22.00 Dziennik. 22.15 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Czwartek 18.V.**

8.15 Matematyka w szkole: ,,Wstęp do teorii informacji" cz. III. 10.55 Dla szkół: (kl. I-III lic.) Język polski — ,,Wydarzenia sezonu teatralno-telewizyjnego". 14.50 i 22.40 Politechnika TV I roku. Fizyka. 15.55 Program dnia. 16.00 XXV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XII etapu na trasie Kraków — Rzeszów. 17.20 Dziennik. 17.30 ,,Ekran z bratkiem". 18.00 ,,Poligon". 18.25 TV Kurier Lubelski. 18.45 ,,Mistrzowie krzyżówki" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Przypominamy, radzimy". 20.10 ,,Alain" — film fab. ang. 21.00 ,,Refleksje". 21.30 ,,Wieczór bez gwiazdy" — Bożysława Kapica i Bogusław Mec. 22.00 Dziennik. 22.15 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Piątek 19.V.**

8.00 TV Kurs Rolniczy dla agronoma i zootechnika: ,,Współpraca służby rolnej z młodzieżą" 9.25 ,,Niebezpieczeństwo było moim zawodem" — film ameryk.-kanad. cz. I (,,Człowiek i morze"). 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — ,,W nowoczesnym gospodarstwie rolnym". 10.25 ,,Alain" — film fab. ang. 14.50 i 23.10 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.55 Program dnia. 16.00 XXV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIII etapu na trasie Rzeszów — Lublin. 17.20 Dziennik. 17.30 ,,Nie tylko dla pań". 17.50 Magazyn Medyczny. 18.20 TV Kurier Mazowiecki. 18.40 ,,Gramy o telewizor" — teleturniej. 19.05 ,,Turystyka i wypoczynek". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Niebezpieczeństwo było moim zawodem" — film ameryk. — kanad. odc. I (,,Człowiek i morze"). 20.30 ,,Kraj". 21.10 Teatr TV: J. Anouilh — ,,Schadzka". 22.30 Dziennik. 22.45 Kronika Wyścigu Pokoju.

**Sobota 20.V.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — ,,Ssaki". 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — ,,Półwysep Arabski". 11.25 ,,Bosonoga Contessa"—film fab. USA. 15.10 Program dnia. 15.15 Program I proponuje. 15.35 Redakcja Szkolna zapowiada. 15.45 Dziennik. 16.00 XXV Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia XIV etapu na trasie Lublin — Warszawa. 17.40 Dla młodych widzów: Parada Pionierów Moskwy na Pl. Czerwonym w 50-lecie Organizacji Pionierskiej ZSRR (Moskwa). 18.40 ,,Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 ,,Studio 13". 21.35 Dziennik. 21.55 Kronika Wyścigu Pokoju. Wiadomości sportowe. 22.20 ,,Bosonoga Contessa" — film fab. USA.




**Piątek, 12 maja**

14.20 Program dnia. 15.30 Eureka. 16.00 Panorama nowin. 17.30 ,,Moskiewskie gwiazdy". 19.00 Czas. 19.30 Film fab.

**Sobota, 13 maja**

9.15 Szkatułka muzyczna. 10.10 Film fab. 11.35 Z historii muzyki białoruskiej. 12.30 Spotkania muzyczne. 13.00 W świecie zwierząt. 14.00 Panorama międzynarodowa. 14.55 Piłka nożna. ZSRR — Jugosławia. 17.00 ,,Moskiewskie gwiazdy" (transmisja koncertu z Pałacu Zjazdów). 19.30 Film. fab. ,,Zbrodnia i kara". I seria.

**Niedziela, 14 maja**

11.35 Święto wiosny. 13.00 Uniwersytet ludowy. 13.45 Piosenka radziecka. 14.30 Klub filmowy. 16.00 Nowiny. 16.10 KWZ. 18.25 Koncert zespołu ,,Drużba". Solistka E. Piecha. 19.00 Czas. 19.30 Film fab. ,,Zbrodnia i kara". II seria. 21.15 Mistrzostwa Europy w podnoszeniu ciężarów.

